ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 37 (2387) 15 верасня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 20 рублёў.

*Алег ЗАЛЁТНЕЎ ШТОВЕСНУ ЗДЗІЎЛЯЕ ПУБЛІКУ ПРЭМ'ЕРАЙ*

## МУЗЫ ВЫБРАЛІ ЯГО...

Яна ўмее быць меланхалічнай і мужнай, гарэзлівай і задуменнай, фанабэрыстай і шчырай. Яна мае свой нораў -- і не прэтэндуе на самастойнасць. Гераіня без прэтэнзій... Хто яна? Гэта дзіўная загадкавая істота -- гераіня радыётэатра. Непрыкметная -- і незаменная. У радыёэфіры, дзе сцэна існуе ўмоўна, дзе няма ні дэкарацый, ні акцёрскіх постацей і твараў, мацнейшым выразным сродкам робіцца чалавечы голас, яго інтанацыя, ігра гуку і паўзы. Але самае выразнае чалавечае слова ўрэшце бездапаможна патанае ў хвалях эфіру, калі яго не падтрымлівае музыка.

Кампазітар Алег Залётнеў, чыёй музыкай аздоблены добры тузін пастановак на Беларускім радыё -- ад казак для дзяцей да інсцэніровак мастацкай прозы -- дасведчаны і ў законах тэатра, і ў спецыфіцы радыё. Ён увогуле адзін з нямногіх беларускіх кампазітараў, хто сябруе з рознымі музамі, хто пастаянна і сур'ёзна працуе ў так званым "трэцім напрамку". Інакш кажучы, у галіне "прыкладной" музыкі. Таму імя Алега Залётнева досыць часта сустракаецца ў сувязі з радыё- і тэлепастаноўкамі, тэатральнымі спектаклямі, кінафільмамі. Здаецца, музы самі выбралі яго для супрацоўніцтва. Выпадковасць творчага лёсу? Мяркуйце самі.

З тэатрам ён знаёмы даўно, дый не проста знаёмы. "Я не аматар тэатра з тэатральнай залы, я ведаю яго глыбей, можа, чым іншыя кампазітары, ведаю, як пахнуць яго кулісы, што робіцца за імі", -- прызнаўся аднойчы кампазітар. І праўда: яго, так бы мовіць, тэатральная практыка пачалася ў школьныя гады са спектакляў мінскай студыі "Юнацтва", да якіх ён прыдумваў музыку, у якіх часам удзельнічаў і сам. Набыўшы прафесію кампазітара, ён захаваў сваю адданасць тэатру, які даў А. Залётневу разуменне вобразнай канкрэтыкі, уменне свабодна і трапна выкарыстоўваць і спалучаць розныя музычныя сродкі. Зярняты мастацкага пошуку, эксперымента, выпешчаныя ў працы для тэатра, кіно або радыёсцэны, даюць з часам свежыя парасткі ў іншых жанрах.

Так, напрыклад, пасля напісання музыкі да спектакля па творах Максіма Танка была створана драматычная араторыя А. Залётнева "Лісткі календара", з музыкі да літаратурна-драматычнай кампазіцыі паводле творчасці Веліміра Хлебнікава нарадзілася вытанчаная "Камерная сімфонія"... Прыкладаў можна прыгадаць багата. Але, бадай, яшчэ больш прыкладаў -- хай даруе мне кампазітар такое "неласкавае" вызначэнне --неабачліва-неашчадлівага стаўлення А. Залётнева да плёну свайго натхнення. Што маю на ўвазе?

Бывае, больш разваротлівыя за яго калегі дэманструюць невычэрпную вынаходлівасць, пераніцоўваючы нейкую сваю мелодыю то ў песню, то ў лірычную п'есу, то ў святочны марш, а то і ў сімфанічнае палатно.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## 1. "ДАРОГА ДА СВЯТЫНЯЎ" — ДАРОГА ДА СЯБЕ



**Гэта было першае на нашай памяці сапраўднае свята беларускага пісьменства і друку, а не прыдуманы штучна Дзень савецкага друку, абавязковы для ўсіх былых рэспублік, безаблічны, зашмальцаваны ад ідэалагічных штампаў. Гэта -- нешта сваё, нацыянальнае, адметнае. Не, пакуль свята пісьменства і друку нельга назваць сваім, бо для многіх чырвоная дата -- толькі 5 мая. Яно яшчэ павінна стаць СВАІМ, беларускім, нацыянальным. А стане яно толькі тады, калі ўвесь наш народ усвядоміць, хто мы ёсць, чаго вартыя, якая наша духоўная скарбніца. Толькі тады, калі запануе БЕЛАРУСКІ ДУХ.**

**НА ЗДЫМКУ: Полацк. Фрагмент святкавання Дня беларускага пісьменства і друку ля помніка нашаму слыннаму асветніку і першадрукару Францішку Скарыне.**

## РАСІІ БАЯЦЦА — ДАТ НЕ АДЗНАЧАЦЬ



**Мусіць лягчэй было князю Астрожскаму выйграць бітву пад Оршай у 1514 годзе, чым яго нашчадкам адзначыць гэтую дату ў 1994-м. Але ж -- адзначылі. Нягледзячы на тое, што пад напорам прарасійскага лобі, здавалася, бітва прайграна: спачатку палі Віцебск і Орша -- улады гэтых гарадоў забаранілі святкаванне 480-й гадавіны перамогі на рацэ Крапіўна пад Оршай войска гетмана Вялікага Княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага над маскоўскімі войскамі, якія значна перавышалі па колькасці, а потым здалася і сталіца. За два дні да святочных мерапрыемстваў гарсавет Мінска адмяніў ранейшы свой дазвол. Таксама пад ціскам розных "народных рухаў". Усе вельмі баяліся: ці не пакрыўдзіцца Расія! Аргументавалі, што "няма гістарычных традыцый", каб адзначаць такую падзею, што "ўзбуджаецца нацыянальная варожасць да Расіі", і г.д. Сам прэзідэнт Аляксандр Лукашенка ў адказ на патрабаванні забараніць гэтае свята не выказаў афіцыйна сваёй думкі, але "даволі негатыўна" паставіўся да яго праявдзення. Адзін разумны рэдактар абвінавачваў арганізатараў святкавання перамогі пад Оршай у тым, што яны з дробязнай даты робяць вялікую палітычную праблему, а вось сапраўдных дат у гісторыі Беларусі на заўважаюць. Не адзначылі ж 130-годдзе паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Але як тут быць, калі і Кастусь Каліноўскі сказаў не самыя лепшыя словы пра "маскаля"!**

**Святкаванне 480-й гадавіны бітвы і перамогі пад Оршай у Мінску ўсё ж адбылося. Конніца князя Астрожскага, прарваўшы міліцэйскі кардон, усё ж прайшла па вуліцы Янкі Купалы да опернага тэатра, дзе адбыўся мітынг і святочны канцэрт.**

**Што ж датычыць Расіі. Мудрая Расія проста не заўважыць гэтай падзеі ці, прынамсі, не надасць ёй таго значэння, на якое спадзяюцца нашы правыя. А тая, чарнасоценная -- яна, зусім не саромеючыся і не баючыся нас абразіць, называе на ўвесь голас Беларусь бананавай,.. даруйце, "агурковай" дзяржавай.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: конніца Астрожскага, а за ёю ўдзельнікі святкавання на вуліцы Янкі Купалы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## БЫЛЫ МІНІСТР АБАРОНЫ ПАНІЖАНЫ Ў ЗВАННІ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ "Аб выкарыстанні былым міністрам абароны Рэспублікі Беларусь Казлоўскім П.П. службовага становішча ў асабістых мэтах". У дакуменце, у прыватнасці, гаворыцца, што праверкай, праведзенай Службай кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта, устаноўлена: былы міністр абароны генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі, адзначаючы 11--12 чэрвеня 1994 года вяселле сына, выкарыстаў сваё службовае становішча ў асабістых мэтах, што прывяло да нанясення дзяржаве ўрону ў буйным памеры. У сувязі з гэтым Павел Казлоўскі паніжаны ў званні да генерал-лейтэнанта. Усе матэрыялы праверкі будуць накіраваны Генеральнаму пракурору Васілю Шаладонаву для адпаведнага рэагавання.

Міністру абароны генерал-палкоўніку Анатолю Кастэнку даручана вырашыць пытанне аб мэтазгоднасці далейшага знаходжання Паўла Казлоўскага ва Узброеных Сілах рэспублікі.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛІЗМУ

Новы міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў не бачыць праблемы нацыяналізму ў беларускай школе. На яго думку, у новых падручніках гісторыі ёсць толькі асобныя старонкі, якія "непажадана б было мець".

На пытанне карэспандэнта "Звязды": "А калі ўсё ж заўтра прэзідэнт дасць вам загад "выкараніць" нацыяналізм са школы!" -- міністр адказаў: "Не, ён такі загад не будзе даваць. Якраз, калі мы з ім размаўлялі, прэзідэнт сказаў, што ён падтрымлівае ўсё тое, што робіцца для стварэння нацыянальнай беларускай школы, для падтрымкі беларускай культуры. Але прэзідэнт супраць выкладання гісторыі, калі яна проціпастаўляе розныя народы".

ДАЛУЧЭННЕ

## У СІСТЭМЕ "СВІФТ"

Сем камерцыйных банкаў на чале з Нацыянальным банкам далучыліся да Міжнароднай міжбанкаўскай фінансавай тэлекамунікацыйнай сістэмы "Свіфт". Цяпер міжнародныя плацежныя аперацыі работнікі Нацыянальнага банка, "Беларусбанка", "Белпрамбудбанка", "Ашчаднага банка", "Белбізнесбанка", банка "Комплекс" і брэсцкага "Вестбанка" змогуць ажыццяўляць за лічаныя секунды.

Адначасова акрамя сямі беларускіх банкаў да сістэмы "Свіфт" падключаецца яшчэ мноства фінансавых інстытутаў з розных краін. "Свіфт" аб'ядноўвае больш як 2 000 банкаў і 4 000 карыстальнікаў з 110 краін свету.

НА МОВЕ ДРУЖБЫ



Арганізацыі, падобныя да той, што ў Беларусі называецца "Ліга добраахвотнай працы", ёсць амаль ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы, у Амерыцы, Канадзе, Японіі і многіх іншых. Менавіта праз гэтыя арганізацыі трапілі ў маладзёжны лагер "Брыганціна" пад Радашковічамі студэнты з Францыі, Японіі і Германіі. Прыехалі яны сюды не адпачываць, а працаваць.

Выхавальнік, ці, як яны самі сябе называлі, "аніматар", зусім не простая работа. Таму што да дзяцей розных нацыянальнасцей трэба знайсці падыход. А зрабіць гэта было часам нялёгка. Цікаўнасць і дапытлівасць хлопчыкаў і дзяўчынак падабалася важатым. І хаця мовай валодалі многія недасканала, зразумець адзін аднаго дапамагалі любоў і цярпенне.

НА ЗДЫМКУ: як заваявала сімпатыю дзяцей важатая з Францыі Дэльфін МАЕ -- яе тайна.

БРАЦТВА СЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ



Як мы ўжо паведамлялі ("ГР" N 20), на стыку межаў трох дзяржаў -- Беларусі, Расіі і Украіны ўстаноўлены Паклонны Крыж у памяць найвялікшых славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Гэтую акцыю правёў з благаславення святейшага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II Міжнародны фонд славянскай пісьменнасці і культуры. Узначальвае яго вядомы ў Расіі скульптар Вячаслаў Клыкаў, аўтар стваранага Крыжа.

Гэта толькі першы крок. Другім будзе ўзвядзенне мя манумента Дружбы храма-помніка Святой Тройцы, што сімвалізуе яднанне трох славянскіх народаў. Вось якім бачаць яго дойліды.

ГРАМАДСКІ РУХ

## ПРАВЫ МАРШ

З'езд нацыяналістычных сіл Беларусі адбудзецца не раней першай паловы лістапада ў Віцебску. Аб гэтым у інтэрв'ю агенцтву РІД паведаміў лідэр незарэгістраванай ультраправай групоўкі "Правы рэваніш" Славамір Адамовіч.

У з'ездзе мяркуецца ўдзел не толькі "Правага рэваншу", але і незарэгістраванай Беларускай партыі Свабоды, а таксама прыватных асоб. "Гэта будзе форум усіх нацыяналістычна настроеных грамадзян, а не толькі членаў нашай арганізацыі. "Правы рэваніш" выступае ўсяго толькі арганізатарам з'езда", -- заключыў С.Адамовіч.

## ПІВА! БОЛЬШ ПІВА!

У Мінску адбыўся другі з'езд Партыі аматараў піва (ПАП), у якім прынялі ўдзел каля 60 дэлегатаў і больш за 500 гасцей.

На з'ездзе быў абраны новы састаў кіруючых органаў партыі. Прэзідэнтам ПАП стаў адзін з ініцыятараў яе стварэння Вадзім Чарнышоў, віцэ-прэзідэнтам -- Андрэй Рамашэўскі. Быў прыняты новы статут партыі, які прадугледжвае магчымасць стварэння ўнутрыпартыйных фракцый, правядзенне агульнапартыйнага рэферэндуму па найбольш важных пытаннях дзейнасці партыі, дапаўняе спіс правоў яе членаў, прадастаўляе магчымасць удзелу партыі ў выбарах як па змешанай, так і па мажарытарнай сістэме.

Абодва дня работы партыйнага форуму завяршаліся масавымі фуршэтамі з абавязковым распіццём піва.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

1,4 ПРАЦЭНТА прадпрымальнікаў ацэньваюць сваё матэрыяльнае становішча як дрэннае. Добрым лічаць яго толькі 5 працэнтаў жыхароў Беларусі, у ліку іх амаль што 30 працэнтаў -- прадпрымальнікі.

ЗА ПЕРШУЮ палову года на 405 тысяч галоў (8 працэнтаў) скарацілася колькасць буйной рагатай жывёлы і на 85 тысяч галоў (3 працэнты) свіней. Як паведамілі ў Міністэрстве эканомікі Беларусі, надоі малака павялічыліся на 33 кілаграмы і склалі ў сярэднім 1 556 кілаграмаў.

ЯК СВЕДЧЫЦЬ сацыялагічнае апытанне, праведзенае сярод юнакоў, прызваных у беларускае войска ў 1994 годзе, 40 працэнтаў з іх лічаць гады, аддадзеныя службе, змарнаваным часам. Больш за 60 працэнтаў пайшлі ва Узброеныя Сілы дзяржавы, баючыся адказнасці за ўхіленне ад службы.

ЗА СЕМ месяцаў гэтага года ад рук злачынцаў загінулі 37 супрацоўнікаў міліцыі Рэспублікі Беларусь. Каля 100 з іх атрымалі раненні. Каб прыпыніць рост злачыннасці ў нашай дзяржаве, рыхтуецца адмысловы ўказ прэзідэнта аб мерах па барацьбе са злачыннасцю.

ЧАЦВЁРА студэнтаў-аспірантаў з Беларусі накіраваны на вучобу ў Кембрыджскі універсітэт. Гэта пераможцы ў конкурсе даследчых праектаў, які штогод праводзіцца Кембрыджскім універсітэтам -- адной з самых прэстыжных ВНУ Вялікабрытаніі. Да таго ж яны паспяхова вытрымалі тэст па англійскай мове.

РАЗГРАБЛЕНЫ ўзведзены пяць гадоў назад медны помнік на магіле Паўлюка Багрыма ў Крошыне. Зніклі ўмела выкаваныя з медзі кветкі. Баранавіцкая пракуратура нават не ведае, калі гэта здарылася. Не заведзена крымінальная справа па гэтаму жахліваму факту.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## АКРЭСЛІЦЬ ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНУЮ КАНЦЭПЦЫЮ

6 верасня адбылася сустрэча міністра замежных спраў Беларусі спадара Уладзіміра Сянько з журналістамі, на якой ён акрэсліў дзейнасць ведамства на бліжэйшы тэрмін. Гаворка ішла аб тых захадах, што запланаваны і якія варта лічыць першаснымі ў рэчышчы знешнепалітычных мер. Важным у гэтым накірунку з'яўляецца ўдзел у чарговым пасяджэнні кіраўнікоў урада краін СНД у Маскве. Нягледзячы на вялікую колькасць падпісаных дамоў і пагадненняў, большасць з іх да гэтай пары не дзейнічае, і таму, на думку міністра, вельмі важна тут знайсці і выпрацаваць механізмы іх ажыццяўлення.

Асноўны акцэнт дзейнасці Міністэрства замежных спраў сёння робіцца на ўзаемадзеянне і нармалізацыю адносін з суседзямі. Менавіта таму на пачатак кастрычніка плануецца сустрэча прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтамі Літвы і Украіны Альгірдасам Бразаўскасам і Леанідам Кучмай. Рыхтуецца таксама шэраг сустрэч на ўзроўні міністраў замежных спраў. Мяркуецца, што ў хуткім часе спадар Уладзімір Сянько сустрэнецца са сваімі калегамі з Польшчы, Літвы і Украіны.

Актыўна ідзе і падрыхтоўка да ўдзелу дэлегацыі Беларусі ў рабоце чарговай сесіі ААН, на якой будзе зроблена спроба панізіць памер узносу Беларусі ў гэту міжнародную арганізацыю. Што тычыцца краін Заходняй Еўропы, то тут па-ранейшаму захоўваюцца добрыя адносіны з Германіяй, што яшчэ раз пацвердзіла надаўняя канструктыўная сустрэча спадара Уладзіміра Сянько з міністрам замежных спраў ФРГ спадаром Клаўсам Кінкелем, які запэўніў, што Германія выканае сваё ранейшае абяцанне, і Беларусь атрымае крэдыт у памеры каля 200 мільёнаў долараў ЗША.

Асаблівую зацікаўленасць сярод журналістаў выклікала паведамленне спадара Сянько аб тым, што падчас яго сустрэчы з расійскім паслом ён выказаў яму абурэнне беларускага кіраўніцтва наконт публікацыі артыкула "Страна огурцов" у газеце "Известия" ад 3 верасня, якая мае выразны антыбеларускі характар. "Гэта здзек з беларускай сімволікі, мовы, з усяго, што ёсць беларускае, і гэта ніяк не можа спрыяць усталяванню добрасуседскіх адносін", -- падкрэсліў Уладзімір Сянько. Ён таксама адзначыў, што міф былога ўрада В.Кебіча аб аб'яднанні грашовых сістэм спрыяў стварэнню негатыўнага іміджу Беларусі за межамі дзяржавы. Відавочна, што далейшыя пытанні журналістаў былі звязаны з тым, як надалей будуць будавацца нашы ўзаемаадносіны з Расіяй. "На маю думку, сёння не можа быць ніякай гаворкі пра нейкае аб'яднанне. Гэта справа выйшла за рамкі магчымых практычных рэалій на арбіту тэорый. У адносінах з Расіяй нам нічога іншага не дадзена, як цеснае супрацоўніцтва: эканамічнае, палітычнае, ваеннае. У гэтым накірунку ідзе распрацоўка дагавора з Расіяй, які павінен быць падпісаны да канца года падчас візіту ў Мінск прэзідэнта і прэм'ера Расійскай Федэрацыі".

На прэс-канферэнцыі гаварылася і аб тым, што прыйшоў час Беларусі акрэсліць сваю знешнепалітычную канцэпцыю. На думку кіраўніка міністэрства, першы крок тут павінен зрабіць парламент Беларусі.

Таіса БАНДАРЭНКА.

## ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# ДУХОЎНАЙ СІЛЫ — НА ЦЭЛЫ ВЕК

Надрукаваўшы нарыс пра Кацярыну Канстанцінаўну Брэшка-Брашкоўскую, спярша і не думаў, што прыйдзецца вяртацца да гэтай асобы. А зараз вось ужо і бачу, і адчуваю, што не дасць мне спакою гэтая тэма і што неаднойчы, відаць, буду яшчэ пісаць пра жанчыну, чый лёс можна смела ставіць на шалі разам з лёсам Веры Фігнер. І толькі, пэўна ж, эсэраўская прыналежнасць не дазволіла Брэшка-Брашкоўскай стаць гераіняй ёмістага фаліянта ў папулярнай і цікавай некалі палітвыдатаўскай кніжнай серыі "Пламенные революционеры".

Вось і краязнаўца Анатоль Ярохін, не спасылаючыся на крыніцу, падказвае: відаць, была Брэшка-Брашкоўская ў свой час госцем "рэвалюцыйнага гнязда" пад Мар'інай Горкай -- у блонскім маёнтку Бонч-Асмалоўскіх. Загадка? Так, пакуль што загадка. Але ж можа знойдзецца і адказ на яе.

Калі ў "Голасе Радзімы" быў надрукаваны нарыс "Бабуля расійскай рэвалюцыі", пазваніў вядомы гісторык беларускай літаратуры Уладзімір Казбярук.

-- ... А вы ведаеце, што з Брэшка-Брашкоўскай сустракаўся наш зямляк Алесь Гарун?

У такое цяжка паверыць. Але ж... Яшчэ ў 1991 годзе ў кнізе Алеся Гаруна "Сэрцам пачуты звон" яе ўкладальнік сярод іншых матэрыялаў паэта-рэвалюцыянера надрукаваў ліст, знойдзены ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі АН Літвы. Будучы шчыра ўдзячным Уладзіміру Казберуку, друкуем гэты ліст невядомаму адрасату цалкам:

"...Нягледзячы на тое, што страшэнна сумна жыць здалёк ад роднай нашай старонкі, ад сваіх, а ўжо прызвычаіўся крыху да гэтых месц і народу, хаця ён мне і не надта падабаецца некаторымі старанамі свайго характару.

Тутака вы не спаткаеце таго, што ў нас: едзе які-небудзь дзядзька, ты ідзеш: "пахвалёны!" -- "на векі векаў" -- "сядай" -- "дзякую" ці "падвязіце, дзядзька!.." -- "сядай" -- і ты паехаў.

Тутака ў нас чалавек спаткае спадарожнага, дык часцей усяго так праедзе, калі незнаёмы, папросіць падвязці, пытае: "сколько дашь"? "Капейкі" іграюць у тутэйшага люду вялікую ролю, і браць іх любяць з каго ні папала і як найболей. Цяперака далей -- "чалдоны" п'юць гарэліцу нічога сабе, а шынкоў колькі хочаш -- што ні хата, то шынок. Ось і наш гаспадар, гдзе мы жывем, -- сам не п'е, жонка толькі ў кампаніі, калі ідзе агульная гулянка: вяселле, свята ці што іншае. І ось у іх гарца гарэлкі часам нестае на тыдзень.

Ну, годзе аб гэтым -- народ як народ, нічога сабе. У гэтым годзе ў Кірэнскі павет Іркуцкай губ. прыйшло 4 партыі, а ў іх многа "палітыкаў". Калі гэта перастануць пхаць сюды народ?! І так тутака людзі галадаюць, бо для ўсіх няма работы, дык і не ўсе ўмеюць, што рабіць. Нядаўна ездзіў у Кірэнск і бачыў тамака бабусю Брэшка-Брашкоўскую. Яе прыслалі ў Кірэнск, каб мець лепшы надзор за ёю. Сцерагуць, як могуць, дык і то баяцца, што ўцячэ. Чуў я, што й спраўнік хоча прасіць дазвалення (ці ўжо просіць) пасадзіць яе ў крэпасць, а то не можа паручыцца, што яна не ўцячэ, а баек каля яе ... нагаварылі колькі?! І мільёншчыца яна -- цэлых паўтара мільёна грошай мае, і нейкая там "партыя" пад яе ўласнай рукой знаходзіцца, і т.д., і т.п. Ну ось і бачыў я гэтага цудоўнага чалавека, катарага так баяцца. Што за мілая кабета! Мае ўжо больш 65 гадоў, а столькі яшчэ духоўнай сілы ў сябе таіць і энергіі, што іх, здаецца, стане яшчэ на цэлы век. Ласкавая, як і сапраўды бабуля, простая, як вясковая кабеціна; жывая і вясёлая, як бы гадоў з 35 для яе дарма прайшлі. Распытвалася, як жывецца. Раіць асесці тутака і ўзяцца за што-небудзь такое гаспадарскае са сваім домам усім такім. А "Расея маўчыць: вы цяперака ёй не патрэбны -- як трэба будзе, сама скліча вас". Дык ось каго я бачыў -- буду памятаць яе доўга. Ось і ўсё найцікаўшае з майго жыцця ў далёкім Сыбіру.

**Алесь ГАРУН".**

Вось такія акалічнасці сустрэчы двух неардынарных асобаў. Як вядома, Алеся Гаруна арыштавалі ў 1907 годзе ў падпольнай друкарні па вуліцы Шырокай у Мінску, дзе друкавалася адозва "Да ўсіх працоўных", у якой рабочыя заклікаліся да барацьбы. Гаруна засудзілі на пасяленне ў Сібіры. Ссылку адбываў у Кірэнскім павеце Іркуцкай губерні. Максім Гарэцкі ўлакладняе: "Спачатку ж жыў у невялікім чалдонскім сяле Макараўскім, ля ракі Лены -- 71 вярста ад Кірэнска і 371 вярста ад Іркуцка..."

Такім чынам, сустрэч Алеся Гаруна з Брэшка-Брашкоўскай магло быць і некалькі. Мажліва, нейкія сведчанні на тое захаваліся ў паперах "бабулі расійскай рэвалюцыі". Але ж дзе шукаць яе архіў? У Празе, у ваколіцах якой правяла апошнія гады свайго жыцця наша зямлячка?.. Ці ў Маскве?.. Ці ў Санкт-Пецярбургу?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## 2. "ДАРОГА ДА СВЯТЫНЯЎ" — ДАРОГА ДА СЯБЕ

**Як мы паведамлялі ў папярэднім нумары, пачатак святу паклала навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў". Яна прыйвяла ў горад Скарыны -- Полацк, дзе 4 верасня адбылося ўрачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства і друку. У ім прынялі ўдзел афіцыйныя асобы высокага рангу і шырокія колы грамадскасці. Старшыня Савета Міністраў Беларусі Міхаіл Чыгір і міністр культуры і друку рэспублікі Анатоль Бутэвіч усклалі кветкі да помніка Францішку Скарыне. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў удзельнікам свята сваё віншаванне, адзначыўшы ў ім: "...нам ёсць чым ганарыцца, ёсць на чым будаваць новае жыццё. Наш шлях у будучыню асвятляюць імёны Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, многіх іншых выдатных сыноў і дачок Бацькаўшчыны."**

**"Дарога да святыняў" прайшла праз многія старажытныя цэнтры беларускай гісторыі, культуры. Удзельнікі навукова-творчай экспедыцыі сустракаліся з жыхарамі Слоніма, Баранавіч, Нясвіжа, іншых слынных мясцін, якія сёння абуджаюць нашу гістарычную памяць, наш нацыянальны гонар, па якіх свет пазнае Беларусь.**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**







**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі экспедыцыі перапраўляюцца праз Нёман у вёску Лаўрышава Навагрудскага раёна; "круглы стол" з інтэлігенцыяй Слоніма; "Лаўрышаўскае Евангелле" -- помнік беларускага пісьменства XIY стагоддзя.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

### ПРЫВАТНАЕ ПЫТАННЕ?

"Хопіць таго, што эканамічныя ўмовы адразаюць беларускіх грамадзян ад зносін з суседзямі. Давайце не будзем яшчэ і ставіць загародкі ўнутры нашага грамадства. Варта помніць, што ў Беларусі жыве некалькі нацыянальнасцей, а не адна, і іх дзеці таксама хочуць знаць сваю родную мову, як і беларусы. Вось чаму лічым неправамернай узнікшую сітуацыю, што супярэчыць Канстытуцыі і Закону аб мовах -- нармальнаму, памяркоўнаму Закону, -- калі ў загадным парадку закрываюцца рускія школы, адкрываюцца беларускія, але не хапае школ польскіх, украінскіх, татарскіх, не відаць яўрэйскіх і літоўскіх класаў. Кожнае дзіця павінна ведаць і дзяржаўную мову -- беларускую, і родную мову, і хаця б адну з сусветных моў. Няхай яно вучыць англійскую, французскую ці іспанскую, але я не бачу прычын, па якіх мы павінны адмаўляцца і ад рускай мовы, найбольш блізкай да нашай роднай. Магчыма некаму падасца залішнім, што Прэзідэнт удзяляе гэтаму прыватнаму пытанню столькі ўвагі, але мінулыя выбары, як лакмусавая паперка, паказалі пазіцыю нашага народа, а яго меркаванне для Прэзідэнта павінна быць законам".

*(З выступлення Прэзідэнта Аляксандра ЛУКАШЭНКІ ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце).*

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# СУСТРЭЧА З ЮБІЛЯРАМ

**У вячэрнія гадзіны 23 жніўня адбылася сустрэча грамадскага актыву Віленшчыны з юбілярам Леанідам Мурашкам, якому споўнілася 70 гадоў.**

**Прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса Беларусі -- сп. пасол Я.Вайтовіч, саветнік пасольства У.Шчасны і консул Я.Шастакоў, а таксама госці з арганізацый Украіны, Польшчы і іншых суполак.**

**У прывітальным слове сп. пасол падкрэсліў вялікую ролю мастацтва ў адраджэнні нацыі і падзякаваў юбіляру за яго актыўную, плённую працу ў гэтай галіне.**

**Мора кветак і чароўных, сяброўскіх усмешак і слоў, вершаў і пажаданняў упрыгожылі цёплую і памятную сустрэчу.**

* * *

Леанід Мурашка -- таленавіты майстар сольных спеваў, барытон. Будучы вучань славутага Беноні (пахаванага ў Вільнюсе на могілках св. Ефрасінні), Леанід ва ўзросце чатырох гадоў праявіў здольнасці ў музыцы і... дырыжыраванні. Цяжка паверыць, але ён ужо тады адчуваў такт і мелодыю, збіраючы групы хлопчыкаў і дырыжыруючы імі. Тлумачыцца гэта тым, што бацька яго ўсё жыццё заставаўся дырыжорам царкоўнага хору, праводзіў частыя рэпетыцыі дома.

Вялікую, калі не рашаючую ролю ў лёсе юнага артыста, адыграў вельмі папулярны ў нашай сталіцы, вядомы ў многіх краінах Еўропы -- Рыгор Шырма. Менавіта ён угаварыў пачынаючага спевака і дырыжора часова адкласці захапляючае юнака гастраляванне і заняцца вучобай. Лёс спрыяў Леаніду: у Вільнюсе жыла яго сястра Зоя. Яна ў тыя гады была студэнткай універсітэта Стэфана Баторыя, удзельнічала ў харавым ансамблі Рыгора Шырмы.

У гады вучобы на светапогляд і далейшы лёс таленавітага хлопца вялікі і плённы ўплыў аказалі заслужаныя дзеячы беларускай культуры кампазітар Канстанцін Галкоўскі, кс. Адам Станкевіч, педагог А.Лекант, свяшчэннік А.Коўш, дырэктар беларускай гімназіі Анцукевіч, В.Багдановіч, праслаўленыя артысты вакалу -- Пракапеня і Беноні.

-- Гэтыя людзі часта бывалі ў нас дома, -- успамінае Леанід Адамавіч. -- Іх эрудыцыя, глыбокае разуменне жыцця і ролі мастацтва, здаровы патрыятызм -- фарміравалі маю асобу, умацоўвалі прынцыпы працавітасці, любові да мастацтва, праўды і справядлівасці. Іх уплыў пакінуў у маёй душы глыбокі след на ўсё жыццё.

Скончыўшы гімназію ў 1943 годзе, давялося быць выналодлівым і хітрым, каб не трапіць у лік тых, каго гналі на прымусовыя работы ў Германію. А ў канцы 1944 года Мурашка зноў значыўся ў хоры Рыгора Шырмы. У складзе гэтага калектыву давялося наведаць буйнейшыя цэнтры Беларусі -- Віцебск, Мінск, Полацк, Барысаў, Оршу, Баранавічы, Брэст, Беласток, Бельск.

-- Жывучы ў Вільні, -- расказвае Л.Мурашка, -- я паралельна з кансерваторыяй стаў працаваць у Літоўскай дзяржаўнай філармоніі, спачатку ў квартэце, а потым -- салістам. Яшчэ студэнтам 5 курса кансерваторыі Леанід быў запрошаны працаваць салістам у Літоўскі тэатр оперы і балета.

З 1949 года Мурашка працаваў пад кіраўніцтвам выдатнага літоўскага майстра вакалу -- К.Петраускаса, які аказаў даволі істотную дапамогу ва ўменні пераўвасабляцца і перадаваць вобразы, у асваенні тэорыі музыкі, гармоніі, інструментоўкі. Тут жа выкладаў ужо знаёмы прафесар К.Галкоўскі.

У операх Чайкоўскага і іншых кампазітараў выступалі таксама вядомыя хормайстры -- Рулінскі, Рубацкі, Ваяводская. Вялікі дар Леаніда Адамавіча пацвердзіўся ў 1950 годзе на конкурсным праглядзе вакальных факультэтаў у Маскве. Літоўскую кансерваторыю прадстаўлялі В.Адашкевічус, Л.Мурашка і Рубакін.

Неўзабаве пачаліся канцэртныя паездкі ў Іспанію, Італію, Югаславію, Венгрыю, Румынію, Польшчу, Чэхаславакію, Германію. У оперным тэатры Вільнюса Мурашка выканаў больш за 60 музычных партый, у тым ліку Грэміна з оперы Чайкоўскага "Яўгеній Анегін", Качубея з оперы "Мазепа", Варлаама з оперы Мусаргскага "Барыс Гадуноў", партыі з опер Сметаны, Артэмоўскага, Барадзіна, Корсакава, Даргамыжскага, Афенбаха, Вагнера, Даніцэці, Пергалезі і інш.

У 1956 годзе адбыўся ў Маскве (упершыню пасля вайны) конкурс вакалістаў, у якім удзельнічала 182 артысты, у тым ліку 12 з Літвы. Леанід Мурашка вярнуўся з конкурсу лаўрэатам. У 1974 годзе яму было прысвоена званне заслужанага артыста Літвы. А праз дзесяць гадоў -- заслужанага дзеяча мастацтва Літвы.

23 гады Мурашка працаваў у Вільнюскай дзяржаўнай кансерваторыі выкладчыкам класа сольных спеваў. З 1988 года знаходзіцца на пенсіі, але не спыняе сваёй музычнай дзейнасці: чацвёрты год з'яўляецца рэгентам царкоўнага хору ў Свята-Духаўскім саборы, часта выступае з канцэртамі на грамадскіх мерапрыемствах. Цяпер яго разам з хорам запрашаюць у Польшчу. Цяжкі час не змог паўплываць на голас і майстэрства заслужанага, таленавітага артыста, дастойнага нашай гордасці і захаплення.

**Аляксей АНІШЧЫК.**

## НА ДЗЕНЬ ЮБІЛЕЮ

**АРТЫСТА-СПЕВАКА Леаніда МУРАШКІ**

**Бываюць і між намі, як і ўсюды, людзі,**
**Што часта моцна б'юцца ў грудзі**
**Ды крычаць усім: "Я -- патрыёт!**
**Я ўсё аддаў і аддаю за свой народ!"**

**А самі служаць верна л ю б о м у ўраду**
**За добрую кватэру, цёплую пасаду.**
**Мы знаем, кожны б з іх без "вазеліны" ўлез**
**Туды, дзе можна вырабіць свой**
**шкурны інтарэс.**

**І шчыра кажучы, так жыць зусім няцяжка.**
**Аднак на шлях такі ня стаў МУРАШКА.**
**Ён многім прыклады сумленнасці дае**
**І роднай мовы, нацыі свае -- не прадае!**

**Душа артыста цэніць прыгажосць.**
**Ні кар'ерызм, ні зайздрасць, ані злосць**
**Не плямяць сэрца спевака-паэта, --**
**Яго душа дабром, цяплом сагрэта**
**І голас Леаніда -- сімвал праўды!**
**Ён рвецца ўсьцяж з грудзей**
**Для спрагненых красы і шчырасці людзей.**

**Нам добра з ім. Ён разганяе смутак, змрок.**
**І мы стараемся раўняць рассыпаны**
**наш крок**
**З дастойным і ахвярным чалавекам,**
**Каб дараўняць яму у барацьбе са злом,**
**са здзекам.**

**Лунае голас спевака магутна і прыгожа,**
**Ці "Зорачкі" спявае, ці "Магутны Божа".**
**Грыміць кліч праўды і сумлення ўжо**
**ня першы год,**
**І ўдзячны мы яму, так, як і ўвесь народ.**

**Не забывайся, Дарагі, ты нам патрэбен**
**І нідзе ня лішні,**
**Няхай прыбавіць сіл Табе і доўгіх год**
**Усявышні!..**

**Аляксей АНІШЧЫК.**

*Вільня, 27 жніўня 1994 г.*

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЛІТОЎСКАЯ ВІЗА?

Як паведамляе аўтаадказчык Літоўскага пасольства ў Мінску, аднаразовая віза для наведвання Літвы беларускім грамадзянам каштуе 7 долараў ЗША, шматразовая -- 12, транзітная -- 5, надбаўка за тэрміновасць -- 3 долары. Аднак атрымаць візу не так ужо і проста. Чарга расцягнулася на 2,5--3 месяцы. Цяпер можна запісацца толькі на лістапад бягучага года. Такая сітуацыя стварае спрыяльныя ўмовы для "бізнесу" на візавай праблеме. У мінскіх газетах з'явіліся аб'явы ад фірмаў, якія забяспечваюць сваіх кліентаў літоўскімі візамі за суткі-двое. Каштуе такая паслуга ў адной з фірмаў 20, у другой -- 35 долараў ЗША. У размове з адным з такіх мінскіх камерсантаў удалося высветліць, што ён дзеля атрымання віз супрацоўнічае з віленскімі "бізнесменамі".

У пасольстве Літвы ў Беларусі адзначылі, што такі бізнес -- незаконны, ніякіх правоў на збор пашпартоў і афармленне віз (альбо запрашэнняў з правам перасячэння мяжы) гэтыя фірмы не маюць. У бліжэйшы час Літоўскае пасольства мае намер выступіць з тлумачэннямі з гэтай нагоды, аднак само яно, відавочна, не мае сіл, каб эфектыўна змагацца з падобным бізнесам, і спадзяецца, што яго прыпыненнем зоймуцца праваахоўныя органы.

*АФІЦЫЙНА*

**Віктар ГАНЧАР:**

## "ПРАБЛЕМЫ ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ ПАТРАБУЮЦЬ ШТОДЗЁННАЙ УВАГІ"

Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Віктар Ганчар прыняў дэлегацыю Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) з Беластока ў складзе ганаровага старшыні прафесара А.Баршчэўскага, старшыні Галоўнага праўлення Я.Сычэўскага, сакратара В.Ласкевіч.

Як паведамляе агенцтва Белінфарм, віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь падкрэсліў, што стасункі новага ўрада з беларусамі суседняй дзяржавы, у прыватнасці, як і з усёй дыяспарай увогуле, будуць будавацца ў першую чаргу на грунце дэпалітызацыі, дэмакратычнага стаўлення і прагматызму. "Мы пераканаліся, -- заўважыў ён, -- што праблемы замежных суайчыннікаў патрабуюць штодзённай увагі".

Са свайго боку, кіраўнікі БГКТ, самай масавай арганізацыі нашых суродзічаў у Польшчы, пазнаёмілі Віктара Ганчара з грамадскай і культурнай дзейнасцю таварыства. Былі закрануты таксама найбольш складаныя моманты агульнага інтарэсу і супрацоўніцтва, сярод якіх захады па завяршэнню будаўніцтва Беларускага музея ў горадзе Гайнаўцы, актыўны ўдзел у якім прымае, як вядома, таварыства "Радзіма", кола пытанняў, што тычацца студэнтаў-беларусаў з Беласточчыны, якія навучаюцца ў нашай рэспубліцы па лініі грамадскіх арганізацый, і г.д.

Госці запрасілі намесніка кіраўніка Кабінета Міністраў на вераснёўскія ўрачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю беларускага ліцэя ў Бельску-Падляскім (Польшча), і папрасілі яго перадаць запрашэнне з той жа нагоды Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнку.

Запрашэнні былі з удзячнасцю прыняты.

Па выніках сустрэчы адпаведным міністэрствам і ведамствам рэспублікі накіраваны канкрэтныя даручэнні.

*З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ*

## ФЕСТЫНЫ БГКТ

Большасць культурна-асветных устаноў Польшчы ў летнія месяцы мае перапынак у дзейнасці. Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку імкнецца выкарыстаць гэты перыяд для праводзення супольна з гміннымі ўстановамі народных фестынаў. У мінулым 1993 годзе адбылося іх на ўсходняй Беласточчыне шаснаццаць і столькі ж прадугледжана на бягучы год. Зацікаўленасць насельніцтва такога тыпу імпрэзамі вельмі вялікая. Асноўную перашкоду складае недахоп фінансавых сродкаў. Незалежна ад усяго ў чэрвені і ліпені праведзена шэсць фестынаў: у Нараўцы-Свінароях, Старым Беразове, Чаромсе, Орлі, Дашах і Сямяцічах.

У фестыне, які адбыўся ў ліпені ў Чаромсе, удзельнічалі працаўнікі чыгункі з сем'ямі, сяляне бліжэйшых вёсак незалежна ад узросту і нацыянальнасці ў ліку каля 2 тысяч асоб. Фестын адкрыў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі і войт гміны Міхась Урублеўскі. Затым адбыўся больш чым трохгадзінны канцэрт мастацкай самадзейнасці. Выступалі фальклорныя калектывы "Вульчанкі" з Вулькі Тэрахоўскай, маладзёжны вакальна-інструментальны калектыў "Чарэмшына" з Чаромхі і "Каліна" з Дашоў. Пасля выступалі прыезджыя самадзейнікі -- хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, гурт "Рэаль" з Гайнаўкі і эстрадны калектыў "Маланка" з Бельска. Завяршылі канцэрт выступленні хору "Чарняначка" з вёскі Чарняны Брэсцкай вобласці, які наведаў фестын у рамках супрацоўніцтва.

Кожнае выступленне мела свае адметныя мастацкія рысы, усе, аднак, прымаліся шчырымі воплескамі. Побач эстрады арганізатары прадбачылі продаж кніжак, асабліва выдавецтва БГКТ і літаратурна-мастацкага аб'яднання "Белавежа", а свае выданні падпісвалі для пакупнікоў Мікола Гайдук і Янка Целушэцкі.

У той самы час адбыўся другі фестын БГКТ у Орлі над рэчкай Арлянкай. Сярод многіх гасцей прысутнічаў пасол у Сейм Польшчы Сяргей Плева з Беластока, які ў маладосці быў членам калектыву песні і танца, а ў апошніх дзесяцігоддзях здабыў сабе прызнанне жыхароў Беласточчыны за нястомную працу на пасадзе старшыні найвялікшага будаўнічага кааператыва. На фестын прыбылі таксама войты суседніх гмінаў. Прысутнічала на фестыне 1,5 тысячы чалавек. А ў Сямяцічах было менш гледачоў -- толькі каля тысячы чалавек. Трэба падкрэсліць, што быў гэта ўсяго трэці фестын БГКТ. Заўважана, аднак, узрастаючае зацікаўленне насельніцтва выступленнямі мастацкіх калектываў і выданнямі на беларускай мове, чаго раней не было.

У жніўні былі арганізаваны чарговыя пяць фестынаў, а апошнія адбудуцца ў верасні.

**Уладзімір ЮЗВЮК.**

**153**

**УЗМАЦНЕННЕ РУСІФІКАЦЫІ ПРАЗ АДУКАЦЫЮ.** У расійскай сістэме адукацыі назіраліся дадатныя змены. Пачатковыя царкоўнапрыходскія школы замяняліся народнымі вучылішчамі свецкага характару. Пашыралася прафесійнае навучанне. Вялікую папулярнасць набывалі такія сярэднія навучальныя ўстановы, як камерцыйныя вучылішчы. Побач з настаўніцкімі семінарыямі пачалі адкрывацца настаўніцкія інстытуты -- у Віцебску (1910), Магілёве (1913) і Мінску (1914), якія давалі фактычна сярэднюю спецыяльную адукацыю. З 1911 года пачало дзейнічаць Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута, дзе А. Сапуноў чытаў курс гісторыі Паўночна-Заходняга краю. Яго гадаванцы атрымлівалі няпоўную вышэйшую адукацыю. Яшчэ раней такое ж аддзяленне адкрылася ў Смаленску. Але расійская школа заставалася на Беларусі важнейшым сродкам русіфікацыі. Царскія ўлады так і не адважыліся адкрыць тут вышэйшую навучальную ўстанову, нягледзячы на шэраг хадайніцтваў мясцовай грамадскасці. Яны асцерагаліся, што гэта паспрыяе росту ў заходніх губернях польскага сепаратызму, беларускага адраджэння, а таксама яўрэйскага ўплыву.

Беларускае сялянства адгароджвалася ад сярэдняй і вышэйшай адукацыі не толькі недастатковасцю пачатковых школ і немагчымасцю заплаціць за навучанне, але і тымі дадатковымі намаганнямі па аваладанню ненатуральнай і чужынскай для іх рускай мовай. Русіфікацыя навучання на Беларусі вяла да крызісу сярэдняй школы, якая не спраўлялася з патрэбамі краю

**154**

ў пісьменных людзях. Тым не менш, руская мова не закрывала шлях, каб найбольш моцным асобам праз веды наблізіцца да свядомай барацьбы за беларускае адраджэнне.

**ВЫБАРЧАЕ ПРАВА.** І пасля рэвалюцыі ў Расіі захоўвалася парламенцкае прадстаўніцтва. Акрамя ўвядзення новага выбарчага закона (3 чэрвеня 1907), які абмяжоўваў колькасць дэпутатаў ад ускраін, зусім ліквідаваць Дзяржаўную думу ўрад не адважыўся. Выбары на Беларусі фактычна адбываліся па нацыянальных курыях (спісах) -- рускай, польскай, яўрэйскай. Беларуская курыя не фарміравалася. Але беларусы-каталікі і ў тым ліку спаланізаваныя паны праходзілі па польскай курыі, а праваслаўныя беларусы, пераважна сяляне, -- па рускай. Царызм абмяжоўваў "палякаў", а гэта давала адпаведную перавагу ў выбарчай барацьбе мясцовым вяскоўцам, якіх запісвалі ў рускія. Нідзе сяляне не мелі такога шырокага прадстаўніцтва ў царскіх Думах, як на Беларусі. Яны далучаліся да ўрадавых партый. Нашаніўцы ж выбары ў паслярэвалюцыйныя Думы фактычна байкатавалі.

**УВЯДЗЕННЕ ЗРУСІФІКАВАНАГА ЗЕМСТВА.** У барацьбе з "польскім" засіллем у заходніх губернях Сталыпін абапіраўся на заможных праваслаўных сялян. Шляхам распаўсюджвання на гэты рэгіён рускага выбарнага земства ён хацеў узняць іх ролю ў мясцовым самакіраванні і палепшыць побыт праваслаўнай вёскі, каб яшчэ тужэй прывязаць яе жыхароў да карэты царскай імперыі. Прычым агульнарасійскае земскае палажэнне ад 12 чэрвеня

**155**

1890 года істотна мянялася: уводзіліся выбары па "рускай" і "польскай" курыях, а маёмасны цэнз выбаршчыкаў зніжаўся ўдвая. Значыць і тут мясцовыя сяляне атрымлівалі нейкія ўступкі, хоць панам і забяспечвалася надзейная большасць у абедзвюх курыях. Сталыпінскі законапраект усё ж выклікаў рашучую незадаволенасць расійскіх памешчыкаў, і толькі пад вялікім ціскам самога прэм'ера цар падпісаў яго. У 1911 годзе рэфармаванае бессаслоўнае земства ўводзілася толькі ў Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай губернях. Урад баяўся, што ў Заходняй Беларусі яно апынецца ў руках спаланізаваных паноў. Земства як бы акрэсліла сферу ўплыву Расіі на беларускіх землях, якую ёй удалося адваяваць у выніку двухсотгадовай барацьбы з беларусамі і палякамі.

**ВЫНІКІ СТАЛЫПІНСКАЙ РЭАКЦЫІ ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ.** Пасля 1905 года русіфікацыя Беларусі дапаўнялася некаторымі ўступкамі і не набывала такіх памераў, як пасля 1863 года. Беларусы-каталікі пакідаліся ў адносным спакоі, а праваслаўныя русіфікаваліся езуіцкімі метадамі. Аднак у канчатковым выніку нацыянальныя праблемы беларускага народа не рашаліся. Яны проста заганяліся ўглыбіню і ператвараліся для імперыі ў міны запаволенага дзеяння.

## 21.2. Сталыпінская рэформа

**МЭТА РЭФОРМЫ.** Найбольшую патрэбу беларускія сяляне ўсё ж мелі не ў асобных

**156**

палітычных уступках, а ў эканамічнай падтрымцы. Натуральны прырост жыхарства Беларусі ў пачатку XX стагоддзя хоць і паменшыўся, аднак вёска задыхалася ад перанаселенасці.

Дваране захоўвалі зямельныя латыфундыі, а значыць і эканамічную ўладу ў краі. У іх руках у 1905 годзе знаходзілася каля 41 працэнта ўсёй зямлі. Прыкладна такое ж становішча складвалася і ў іншых раёнах імперыі. Пазбегнуць новага сацыяльнага выбуху можна было пераразмеркаваннем панскіх зямель на карысць сялян. Але ўрад не хацеў гэтага.

Каб не чапаць панскага дабра і расчысціць дарогу для сялянскага прадпрымальніцтва, прапаноўваўся знешне просты выхад --абагаціць адных сялян за кошт другіх, а для таго распусціць абшчыну і аблягчыць пераход здрабнелых надзелаў беднякоў ва ўласнасць заможных вяскоўцаў. Абеззямеленых павінны прыняць гарады і прамысловыя цэнтры, а таксама Сібір, куды наладжваецца масавае перасяленне. Астатнія перабіраюцца на хутары ці, не пакідаючы сядзібу ў вёсцы, зводзяць землі ў адзін клін ("водруб"). Ажыццяўленне гэтых даўно вядомых ідэй і распачаў кабінет Сталыпіна. Таму і новая аграрная рэформа атрымала назву сталыпінскай.

**РАЗБУРЭННЕ АБШЧЫНЫ.** Права на выхад з абшчыны сяляне атрымалі па царскаму загаду ад 9 лістапада 1906 года, але яшчэ доўга цікавалі за паводзінамі ўрада ды Дзяржаўнай думы. Нарэшце зразумелі, што спадзяванні на дармавыя нарэзкі марныя: зямлю можна было толькі купіць. І ўжо ў 1909--1911 гадах абшчыну

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**157**

пакідалі дзесяткі тысяч сялян Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Гвалтам накінутая беларускім сялянам, яна хутка развальвалася. Усяго ў гэтых дзвюх губернях да 1915 года замацавалі зямлю ў асабістую ўласнасць 48 працэнтаў абшчынных двароў, тады як у цэлым па Расіі -- 22 працэнты.

**ХУТАРЫЗАЦЫЯ.** Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя пад уплывам Прыбалтыкі і Польшчы хутары пашыраліся на Віцебшчыне, Аршаншчыне і Гродзеншчыне. За дзесяць гадоў сталыпінскай рэформы іх узнікла тут каля 128 тысяч, ці 12 працэнтаў ад усіх сялянскіх двароў. І гэты паказчык быў вышэйшым за агульнарасійскі (10 працэнтаў). Хутарызацыя дазваляла пазбавіцца ад цераспалосіцы, а таму мела сэнс і для сялян-падворнікаў, якія прытрымліваліся шнуравой сістэмы. Кожны гаспадар валодаў столькімі шнурамі (палоскамі) зямлі, колькі ў вёсцы было рознага па якасці ворыва і сенакосаў. Але жыхары цэнтра і захаду Беларусі праяўлялі большую разважлівасць і не спяшаліся на хутары, не сабраўшы грошай. Яны ведалі, што такое аднаасобнае жыццё.

Амаль кожны хутаранін меў патрэбу ў крэдыце. Ён мог стаць на ногі толькі пры інтэнсіўнай і добра арганізаванай працы, набыўшы найноўшыя прылады працы ды хоць бы мінімум агранамічных ведаў. Для забітай і непісьменнай вёскі такія перамены даваліся з вялікай цяжкасцю. Дзяржава дапамагала, ды была не настолькі багатай, каб забяспечыць усіх жадаючых. Для правядзення рэформы ствараліся спецыяльныя землеўпарадкавальныя камісіі. Яны разам з земствам і шматлікімі

**158**

сельскагаспадарчымі гурткамі дапамагалі пачынаючым фермерам набываць тэхніку, сартавое насенне, тукі, будаўнічы матэрыял і ўсё неабходнае. Вольныя землі сцякаліся ў Сялянскі банк, а потым распрадаваліся ў крэдыт пераважна мясцовым вяскоўцам.

Але не ўсім хапала працавітасці, цярплівасці, спрытнасці. Да 1915 года каля 36 працэнтаў гаспадароў, што выйшлі на хутары і адрубы, прадалі сваю зямлю больш удачлівым. Пазбаўляліся жабрацкіх надзелаў і вяскоўцы. Разам са збяднелымі хутаранамі яны шукалі, ды не заўсёды знаходзілі, куды б прыкласці рукі. Не надта шмат было на Беларусі буйных прамысловых прадпрыемстваў. Яўрэйская эміграцыя, праўда, вызваліла нейкую частку рабочых месцаў у гарадах, ды яны хутка запоўніліся. Заставалася ехаць у Сібір ці падавацца ў расійскія гарады.

**СЯЛЯНСКІЯ ПЕРАСЯЛЕННІ.** Бедната рэдка адважвалася на далёкае падарожжа. Дзяржава дапамагала грашыма на праезд. Але зноў жа -- не ў дастатковым памеры і не ўсім. Паўперы, насуперак разлікам урада, канцэнтраваліся ў прамысловых цэнтрах Еўрапейскай Расіі. А ў Сібір ехалі гаспадары сярэдняй рукі, якія любілі зямлю і ўмелі на ёй працаваць, ды не маглі ва ўмовах зямельнай цеснаты разгарнуць сваю дзейнасць. За 1904--1914 гады з пяці заходніх губерняў перасялілася каля 368 тысяч чалавек, і большасць з усходу. Былыя абшчыннікі літаральна за бясцэнак прадавалі сваё дабро і рваліся на волю, як мага далей ад ненавісных паноў і земскіх начальнікаў, ад абрыдлай апекі

**159**

абшчынных вярхоў. Знаходзіліся сярод перасяленцаў і заможнікі, якія мелі патрэбу ў больш шырокай прасторы для прадпрымальніцтва, без канкурэнцыі з боку спаланізаваных паноў і яўрэйскіх гандляроў. Багацейшыя ў першую чаргу і замацоўваліся на новых месцах. А Беларусь губляла найбольш прадпрымальных людзей.

Тым, каго жыццё прымушала лічыць кожную капейку, даводзілася цяжэй. Сібір сустракала нашых землякоў зусім не так, як тое прадстаўлялі царскія ўраднікі. Непрыемнасці пачыналіся ўжо ў дарозе. У "цялятніках" (вагонах для перавозу жывёлы) панавалі заразныя хваробы -- і многія не дажывалі да сустрэчы з новай радзімай. А там -- тайга ды балоты, голад ды цынга. Не ўсе маглі закласці гаспадарку на голым месцы, не ўсе маглі вытрымаць. Каля 11 працэнтаў вярнулася ў 1907--1914 гадах на Беларусь. Але гэта зусім не азначае, што астатнія замацоўваліся на новых землях. Збяднелыя і расчараваныя асядалі ў гарадах Сібіры і Далёкага Усходу ці станавіліся батракамі ў старажылаў. Сотні тысяч лепшых беларускіх сялян, адарваных ад родных мясцін, выкарыстоўваліся царызмам для эканамічнага ўздыму сібірскіх прастораў. Паводле перапісу 1926 года, у Канскай акрузе жыло 13 працэнтаў беларусаў, Тулуноўскай -- 14, Орскай -- 16 працэнтаў. А насельніцтва Усурыйскага краю на 5/6 было беларускім яшчэ ў пачатку XX стагоддзя. Усяго за 50 гадоў, што папярэднічалі першай сусветнай вайне, з Беларусі выехала за Урал больш за мільён чалавек.

Другі струмень сялянскіх перасяленцаў накіроўваўся на захад ЗША, у Канаду,

**160**

Бразілію, Аргенціну. Агульны лік эмігрантаў-беларусаў у 1914 годзе за межамі Расійскай імперыі ацэньваецца на круглы мільён. А ўсяго ў пачатку XX стагоддзя за межамі Беларусі шукалі кавалак хлеба больш за 2 мільёны яе сыноў і дачок. І гэта тады, калі рускі ўрад працягваў палітыку аграрнай каланізацыі нашага краю. Пры Сталыпіне тут быў створаны з дзяржаўных зямель спецыяльны фонд для рускіх перасяленцаў. Адпаведнае заданне па пашырэнню рускага землеўладання меў і Сялянскі банк.

**НЯЗДЗЕЙСНЕНЫЯ ЗАДУМЫ.** Аграрная рэформа зацягвалася. Сталыпін сустрэў апазіцыю як з боку рэакцыйнага дваранства, так і з боку рэвалюцыйнай інтэлігенцыі. У 1911 годзе ён, як вядома, быў забіты ў тэатральнай зале Кіева тэрарыстам Багровым, пропуск для якога выпісаў начальнік царскай аховы генерал Курлаў (былы мінскі губернатар). Першая сусветная вайна перарвала рэформу. Яе вынікі не паспелі выявіцца. Аграрнае пытанне не здымалася з парадку дня, а значыць захоўвалася і небяспека новай рэвалюцыі.

## 21.3. Перамены ў вёсцы

**ПАШЫРЭННЕ ЗДАБЫТКАЎ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ.** У большасці сваёй вяскоўцы і ў пачатку XX стагоддзя заставаліся людзьмі цёмнымі і прыдушанымі непамернай працай. У перадавых краінах таго часу ўжо склаўся цэлы пласт фермерства, што вёў гаспадарку на прамысловых пачатках і меў прыстойнае жыццё -- каменныя дамы, электраасвятленне, фабрычныя прадметы ўжытку.

# МУЗЫ ВЫБРАЛІ ЯГО...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Залётнеў жа рэдка вяртаецца да сваіх набыткаў у "прыкладных" жанрах, і застаюцца прыгожыя мелодыі, якія і сапраўды маглі б гучаць як самастойныя п'есы для інструментальнага ансамбля, папаўняць канцэртны рэпертуар аркестраў, -- застаюцца ўсяго толькі вобразным фонам да той ці іншай драматычнай сцэны ў спектаклі або песняй, што гучыць "па ходзе дзеяння". Упэўнена, што запісаныя "на жывую нітку" ў радыёстудыі інструментальныя "кавалкі" да пастановак хаваюць у сабе драматургічныя калівы, на жаль, ненапісаных сімфанічных палотнаў.

У пачатку 80-х на радыё прагучала інсцэніроўка апавядання Уладзіміра Караткевіча "Паром на бурнай рацэ", драматычны аповяд, нібыта працяты шчымлівай, крыху сентыментальнай музыкай. Гэта яна, музыка, у суладдзі з Караткевічавай музай, дапамагала слухачам адчуць трывогу жніўня 1863 года; уявіць паром на Дняпры пад аховаю царскіх вайскоўцаў; і жонку асуджанага на смерць інсургента Грынкевіча, якая ў "вераб'іную ноч" бясстрашна дамагалася пераправы на той бераг, каб паспець з памілаваннем і апярэдзіць пакаранне, і дуэль двух капітанаў, да несумяшчальнасці розных людзей, якім выпала разам ахоўваць паром. У радыёспектаклі былі дзве яркія музычныя тэмы: вальс, які, залежна ад акалічнасцяў дзеяння, мяняў сваю эмацыянальна-псіхалагічную афарбоўку, ды лірычны напеў, з якога нарадзіўся кранальны раманс на верш У. Караткевіча...

Радыёспектакль "Іду да цябе" паводле Івана Драча ўзнаўляў драму двух жыццяў, драму двух сэрцаў. У цэнтры -- вядомыя постаці: выдатная паэтка Леся Украінка ды адзін з кіраўнікоў мінскай сацыял-дэмакратыі Сяргей Мяржынскі. Ствараючы музыку, А. Залётнеў знайшоў пранікнёныя фарбы пяшчоты, азмрочанай ценем трагічнага, няспраўджанага кахання. І ўжо зусім іншай палітрай карыстаўся ён у музыцы да спектакляў паводле "Пушчы" Віктара Карамазава ды "Палявання на апошняга жураўля" Алеся Жука. У гэтых творах кампазітара прываблівала тэма экалогіі наваколля, злучанай з экалогіяй унутранага свету чалавека, экалогіяй Чалавечнасці ды Культуры. Таму й загучаў тут голас народнай беларускай песні...



Але калі ўжо зайшла ў нас гаворка пра музыку А. Залётнева менавіта да радыёспектакляў, дык нельга не згадаць яшчэ адзін твор -- "Каласы пад сярпом тваім". Гэты раман Уладзіміра Караткевіча, адзін з галоўных твораў у нашай літаратуры, стаўся асновай і аднаго з галоўных твораў беларускага радыётэатра. Магутная, напоўненая высокім духам і рамантычным водарам проза сталася багатай крыніцай музычных вобразаў для кампазітара. Канечне, распавядаць пра гэта няпроста. Лепей слухаць радыёспектакль і пераконвацца, што музыка, нябачная гераіня "Каласоў...", дадае вобразнасці, духоўнай энергіі ці не кожнаму слову, прамоўленаму акцёрамі, дапамагае нашаму уяўленню амаль зрокава акрэсліць постаці персанажаў, адчуць псіхалагічную атмасферу кожнага эпізода.

Шчымлівы напеў жалейкі, песня сляпога жабрака-лірніка, вяночак жанравых мелодый -- зухаватая полечка, пыхлівы мястэчковы паланез, пяшчотны вальс. І яшчэ адзін вальс -- поўны драматызму, душэўнага надлому. І царкоўнае песнапенне. І гераічны лейтматыў беларускіх паўстанцаў, у якім гэтак сурова і прызыўна гучаць і званы, і фанфары... За ўсім гэтым -- розныя плыні ды тэматычныя ручаінкі рамана "Каласы пад сярпом тваім". Жыццё беларускага люду. Лёс Бацькаўшчыны. Абуджэнне высокай свядомасці. Грамадзянскае ўзмужненне. Замілаванасць да родных мясцін і шанаванне свяшчэнных традыцый продкаў. Гэта лёс маладога героя рамана Алеся Загорскага, які трапляе ў кола вальнадумных людзей, знаёміцца з гэткім жа маладым Кастусём Каліноўскім. А яшчэ -- зазнае пакуты першага кахання. І назаўсёды развітваецца з дзяцінствам, трапіўшы ў Пецярбург, у кола новых сяброў, у атмасферу святых для яго і небяспечных бунтоўных ідэй, якім аддае ён сваё маладое сэрца і свой паэтычны дар.

Алег Залётнеў умее быць па-тэатральнаму нечаканым у сваёй творчасці. Амаль штовесну здзіўляе ён мінскую публіку прэм'ерай, якая атрымлівае высокія ацэнкі калег і крытыкаў. То, напрыклад, прадставіў цудоўны канцэрт для ўдарных інструментаў "Крэда". То сродкамі камернага аркестра, сам стоячы за дырыжорскім пультам, разыграў "Тэатральны дывертысмент" -- гэткую музычную пародыю на стан грамадства. Напісаў "Тры кадэнцыі для аргана", а потым і Канцэрт для ўдарных і аргана.

Сёлета ж кампазітар зноў здзівіў і ўразіў слухачоў, калі вынес на іх суд прэм'еру некалькіх нумароў з "Літургіі", выкананых Дзяржаўным камерным хорам пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова. Зрэшты, пра гэты твор мае быць асобная гаворка, бо жыццё яго толькі пачынаецца, партытурай зацікавіўся вядомы сябра беларускай культуры Гай дэ Пікарда, які ўжо нават выдаў адзін з фрагментаў харавога твора А. Залётнева ў Лонданскім цэнтры імя Ф. Скарыны. Падчас нядаўняга візіту на Беларусь спадар Пікарда, разважаючы пра гэта, назваў кампазітара Залётнева -- і магнітафонная стужка не дасць мне схлусіць -- геніяльным...

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.**

**НА ЗДЫМКУ: кампазітар Андрэй ЗАЛЁТНЕЎ (злева) і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага камернага хору Ігар МАЦЮХОЎ.**

**Фота Сяргея ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА.**

**Мар'ян ДУКСА**

## БЕЛАРУСКІМ ЖАЎНЕРАМ

**Вы трошкі, вядома,**
**у вайну пагуляйце:**
**пара ў нас дзяржаўная --**
**нібы дзяцінства...**
**І шыхтамі крочце па**
**бойкім гасцінцы,**
**мо скажуць дзяўчаты**
**прывабныя: "Гляньце!"**
**Няхай вам айчынныя**
**швачкі любоўна**
**усё ж адштукуюць**
**у добрым настроі**
**вайсковыя вашы і**
**сукні і строі,**
**каб вы выглядалі**
**надзвычай шыкоўна.**
**Крыху паказычце**
**юначыя нервы --**
**на ствол узбярыцеся**
**грознай гарматы,**
**пагушкайце вы**
**на плячы аўтаматы,**
**палётайце лесам,**
**як будуць манеўры.**
**А скончыцца гэты**
**гармідар сумесны,**
**скажыце, адчуўшы**
**прыемную стому;**
**"Ну усё! Пагулялі. Мы**
**хочам дадому!"**
**І скіньце у кучу**
**рыштунак жалезны.**
**Калі ж у вачах**
**загарыцца агеньчык**
**паслоў: "Штосьці дайце**
**для нашай дзяржавы..." --**
**хай выберуць штосьці**
**для ўласнай забавы.**
**Астатняе хай**
**забярэ аўтагеншчык.**
**У знак развітання**
**з былымі сябрамі**
**даешце ўсе разам**
**паходную пайку.**
**Вы толькі не верце у**
**смешную байку:**
**нас "ворагі" голымі**
**возьмуць рукамі.**
**Без мушкі прыцэльнай**
**адужаем горы.**
**Наіўная версія --**
**наша ціхманасць.**
**Хлусня несусветная —**
**наша рахманасць.**
**А чыстая праўда --**
**наш дух непакоры...**

**АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ**

# ЗАСТУПНІК БАЦЬКАВАЙ СПАДЧЫНЫ

Ён шмат піша, друкуецца.

Там, на Куршчыне, дапытлівы Даніла прылаўчыўся самастойна чытаць. Праўда, мацеры і бацьку даводзілася не раз напамінаць тую або іншую літару. У пяць гадоў ён ужо шпарка і асэнсавана чытаў, прыглядаўся да творчай майстэрні бацькі.

Гэты далёкі напамін аб самым родным на свеце прымусіў сягонняшняга Данілу агледзецца на дуб, што шаптаўся з бярозай. Надзеўшы сіні капялюш, крыху сутулы і прыгнуты гадамі, патупаў нетаропкім крокам да хаты-музея, прыслухоўваючыся да саду, які закладваў з бацькам. Падобны сад рос і на Старажоўцы, куды ў 1921 годзе па выкліку наркома асветы Якуб Колас прыехаў і ўладкаваўся працаваць у навукова-тэрміналагічную камісію, пазней Інбелкульт...

-- У Мінску, -- успамінала цётка Міхаліна, -- брата сустракалі вельмі хораша, з музыкай... Шмат людзей сабралася. Колас выйшаў з вагона са сваёй гаспадаркай і казою, якую трымаў за вяроўкі малы Даніла... Калі ж заіграў аркестр, каза забляяла, а Костуся з сынам падымалі на "ўра".

На Старажоўцы да іх, па словах Данілы, часта прыходзіў Язэп Лёсік, які ажаніўся з дачкой Ядвігіна Ш. Ванадай. Якуб Колас і Язэп Лёсік сябравалі. Дзядзька Язэп, хоць і малодшы на два гады за свайго пляменніка, але меў станоўчы ўплыў на яго свядомасць. На правах сваяка крыху муштраваў цікаўнага ўнука Данілу, які не па гадах праявіў дапытлівасць да геаграфіі і прыродазнаўства. У хаце паэта на Старажоўцы часта збіраліся землякі, іншыя госці. Цётка Маруся заўсёды была ўзрушана і хлебасольна сустракала сяброў свайго мужа. Як сведчыць Даніла: "Апавяданне бацькі "У двары пана Тарбецкага" ёсць дакументальны побыт Коласа". Стрыечны брат Данілы, былы дырэктар філіяла музея Якуба Коласа ў Мікалаеўшчыне Валодзя, сын Міхаліны, аднойчы заўважыў:

-- У 1921 годзе мы вярталіся з бежанцаў з Украіны, заехалі на вуліцу Русецкага да дзядзькі Якуба. Даніла пасля хваробы быў бледны, сядзеў на ложку і бойка чытаў кнігу "Рыба-кіт". Я здзівіўся тады, што такі малы, а чытае, як рэпу сячэ. Ягоны брат Юрка бегаў па хаце. Дзядзька Костусь выглядаў вельмі худым, нібы з крыжа зняты.

Валодзя хваліў цётку Марусю. Частаваць у той час асабліва не было чым, дык яна схадзіла на рынак, купіла мукі і напякла смачных аладак. Даніла прыглядаўся да сваяка. Той апетытна ўплятаў аладкі, і брат падсунуў і сваю порцыю, а сам з радасцю чытаў цікавыя гісторыі з кніжкі... Займаўся крыху адукацыяй пляменніка і дзядзька Саша, брат Марыі Дзмітрыеўны... Сябры бацькі Янка Купала, ягоная жонка цётка Уладзя, Язэп Лёсік, Максім Гарэцкі, Алесь Сянькевіч, Міхайла Грамыка, прафесар хіміі Барыс Беркенгейм станоўча паўплывалі на светапогляд цікаўнага, здольнага і памятлівага хлапчука. Не выпадкова, калі прайшло дзевяць вёснаў, ён адразу паступіў у трэці клас сямігодкі доследна-паказальнай школы пры педфаку БДУ, дзе ў той час працаваў ягоны бацька выкладчыкам роднай мовы. Выхоўваў на свой лад унука і Язэп Лёсік. Ён дамагаўся, каб і дзеці гаварылі на роднай мове. Па сваёй натуры дзед не вылучаўся гаварлівасцю, мала ўсміхаўся, з выгляду падаваўся суровым. Ён у сваіх поглядах быў рашучым, радыкальным, шчырым заступнікам адраджэння нацыянальнай культуры і мовы і нікому не дараваў здзекаў з матчынай мовы, нават роднаму сыну Юрку, якога любіў і цаніў. Даніла, усміхаючыся, прыгадвае:

-- Язэп ушчуваў свайго Юрку: "Які дурань навучыў цябе гаварыць "да", трэба -- "так". Ён мне паказаўся ўдумлівым, сур'ёзным, адчувалася, што ўсе, хто збіраўся ў нас па вечарах, прыслухоўваліся да яго катэгарычнага голасу. Не буду настойваць, але з радні Лёсікаў Язэп -- самы неспакойны, настырны, апантаны ідэяй нацыянальнага адраджэння і самастойнасці роднай Бацькаўшчыны. За што і заплаціў уласным жыццём...

-- Памятаецца, -- прыгадвае Даніла, -- Купала, Лёсік, Някрашэвіч, Сянькевіч, Смоліч, іншыя працавалі над духоўным скарбам Беларусі, яе мовай. Бацька ў той час быў абраны віцэ-прэзідэнтам Беларускай акадэміі навук... Але надышоў змрочны перыяд. Над беларускай інтэлігенцыяй навіслі цяжкія выпрабаванні. Праз год Язэпа Лёсіка арыштавалі... Бацька таксама меў шмат непрыемнасцей.

У хаце Якуба Коласа рабілі вобыск, не давяралі паэту. Выклікалі на допыты. Ішла барацьба за "чысціню марксісцка-ленінскай ідэалогіі".

Юнак не мог не заўважыць гэтай плыні, духоўнага змагання за незалежную Беларусь. У яго фарміраваліся пэўныя погляды на жыццё пад уплывам вядомых і свядомых беларусаў, якія хацелі быць годнымі сынамі сваёй нацыі.

Дома бацька даверыў, як старэйшаму і разважліваму, дапамагаць у вядзенні гаспадаркі. Прынамсі, такі ўспамін лагоднай хваляй дакрануўся да сівога Данілы, які кіраваўся да хаты-музея, дзе шмат давялося папрацаваць, паклапаціцца, каб не пашкодзіць сосны, дзе даставаў будаўнічыя матэрыялы, наймаў рабочых, вёў разлікі, сачыў за якасцю работ, капаў ямы для будучага саду. Такі-сякі вопыт быў ужо назапашаны. Яшчэ ў 1927 годзе будавалі сваю хату на Вайсковым завулку, дзе жыў Язэп Лёсік са сваёю сям'ёю. Дзядзька Саша, як прараб будоўлі, даручыў пляменніку быць адказным за матэрыялы. З-пад Негарэлага на трох платформах прывезлі кругляк, даводзілася пільнаваць, бо і ў той час траплялiся розныя прайдзісветы, ашуканцы. Дрэва падвозілася на конях. Работа кіпела, дом рос на вачах, і радасць бушавала ў грудзях. Мясціна, выбраная для будаўніцтва хаты, чымсьці нагадвала месцы, дзе прайшлі юначыя гады паэта.

"Бацька ніколі не парываў сувязь з родным кутам. Дарагую спадчыну бярог не толькі ў кнігах... Хацеў, каб і жывая прырода напаміналa яму аб гэтым", -- успамінае сын. Зняўшы капялюш, уздыхнуўшы на поўныя грудзі, ён уважлівым позіркам акінуў гадавалы сад, агледзеў лечаныя сосны. Светлая ўсмешка прабегла па яго акруглым твары. Плечы Данілы расправіліся, ён узняў галаву, добразычлівыя агеньчыкі запаліліся ў вачах, нейкая зухаватасць з'явілася ў яго рухах. Прыгадалася восень 1954 года. Новая двухпавярховая хата ўжо стаяла, маляўніча ўпісалася сярод соснаў. Каля кухні на лаўцы сядзелі сваты Янка Маўр і Якуб Колас, весела гаманілі, кідаючы позірк у бок хлопцаў, што завіхаліся каля пня толькі што зрэзанай сасны-сухастоіны. Даніла, ягоны брат Міхась, які ажаніўся з дачкой Янкі Маўра Наташай, шафёр Дзіма і я не маглі выцягнуць пня, хоць і прыдумалі тэхнічны блок. Зацікавіліся пнём і сваты. Як гэта так?

**Сымон БЕЛЫ.**

**Працяг. Пачатак у № 36.**

*СПАДЧЫНА*

# ПРЫГАЖОСЦЬ КАРУНКАВЫХ УЗОРАЎ

Быў у даўнія часы добры звычай -- доўгімі зімовымі вечарамі збіраліся дзяўчаты ў якой-небудзь хаце, каб весялей было, і, спяваючы песні, пралі, вышывалі, плялі карункі. Пад песню і ўзоры складаліся лепей, а былі яны сугучныя з характарамі майстрых. У добрых і ласкавых -- тоненькія, пяшчотныя. У сур'ёзных -- больш строгія і выразныя. А ў вясёлых ды рагатушак -- лёгкія, радасныя, каляровыя... Нездарма стараліся дзяўчаты: побач хлопцы сядзелі, паглядвалі ды на вус маталі.

Карункі на вячорках займалі асобае месца. Не кожная ўмела ткаць складаныя ўзорыстыя посцілкі альбо ручнікі, а карункі вязала кожная ўмеліца. Якіх толькі карункавых цудаў не з'яўлялася ў маладых ды спраўных руках вясковых прыгажунь з дапамогаю драўлянага, а пазней жалезнага кручка! Дзяўчаты-вечарніцы, што плялі карункавыя ўзоры, у той жа вечар маглі прадэманстраваць сваю працу ў завершаным выглядзе. Карункамі ўпрыгожвалі адзенне, ручнікі, падзоры. Нават намітку, традыцыйны жаночы галаўны ўбор, калі-нікалі аздаблялі карункамі. Абавязковымі былі карункі на фартушках, што ўваходзілі ў камплект беларускага нацыянальнага строю. У самых добрых гаспадынь карункі ўпрыгожвалі кожную навалочку, кожную фіраначку, нават тую, што была каля печы.

Ніткі для пляцення выкарыстоўвалі льняныя, суровыя ці адбеленыя. На карунках-павуцінках выпляталіся выявы фігурак людзей, пеўнікі, курачкі, разнастайныя птушкі, зайчыкі, коцікі, букецікі бэзу, гронкі вінаграду, кветкі. Алені -- вельмі распаўсюджаны матыў у народнай творчасці Панямоння. Выявы аленяў сустракаюцца з глыбокай старажытнасці да нашых дзён на тканых вырабах, прадметах, аздобленых мастацкай вышыўкай, на тонкіх празрыстых карунках. Часам побач з аленем адлюстроўваецца маленькае аленяня. Таксама часта сустракаюцца выявы ласёў.

У карункавых узорах нярэдка можна ўгледзець абрысы царквы ці проста сялянскай хаты, а побач выявы дрэў альбо вазонаў. Часта невялічкі рапарт малюнка паўтараецца па ўсёй даўжыні карункавага вырабу. Шырока быў распаўсюджаны ў больш старажытныя часы і захаваўся ў сучасным мастацкім карункапляценні матыў салярнага знака. Гэта сімвалічная выява сонечнага кола, што размяшчаецца ў ромбе, квадраце ці іншай форме. Салярны знак быў у вялікай пашане ў дахрысціянскія часы і азначаў найвышэйшага бога -- Сонца. Салярны знак -- гэта вяршыня, дасканаласць. Зараз такі дэкаратыўны матыў не нясе ў сабе былога зместу, а з'яўляецца толькі прыгожым элементам арнаменту, які выкарыстоўваецца многімі майстрамі для аздаблення разнастайных прадметаў.

Карункі альбо прадметы, упрыгожаныя карункамі, маюць абрадава-дэкаратыўнае і утылітарнае прызначэнне. Карункі з'яўляюцца гарманічным дапаўненнем, як ужо адзначалася вышэй, нацыянальнага адзення, ручнікоў, абрусаў, часам яны прыгожа аздаблялі чапцы, хусткі. Абавязкова ўпрыгожваліся плеценымі з нітак узорамі жаночыя сарочкі і фартушкі, асаблівую ўвагу надавалі фартушкам жанчын, што выпякалі вясельны рытуальны хлеб -- каравай. Не толькі адмысловымі ў мастацкіх адносінах, але, і гэта галоўнае, адмысловымі па зместу, а таксама глыбока сімвалічнымі павінны былі быць карункі на вясельных фартушках.

З узнікненнем бабаўнянай пражы многія жанчыны пачалі ствараць карункі з бялюткіх тонкіх нітак, купленых у краме. Аднак больш сталага ўзросту жанчыны не губляюць сувязі з традыцыйным карункапляценнем і надаюць перавагу льняным ніткам. Карункі з лёну хатняй апрацоўкі больш гарманічныя з самаробнымі посцілкамі і дыванамі, драўлянымі ложкамі, старадаўнімі куфрамі, якія нярэдка сустракаюцца ў вёсках Панямоння побач з сучаснай мэбляй, асабліва калі ў хаце ёсць старэнькая бабуля.

Мастацтва карункапляцення распаўсюджана не толькі ў сельскіх мясцінах, але ў горадзе таксама. Гэта найбольш пашыраны від творчасці пасля ткацтва і вышыўкі. Многія вырабы, зробленыя сучасніцамі, традыцыйныя не толькі па тэхнічных асаблівасцях, але і па характару арнаментыкі. Так, напрыклад, вельмі старажытны матыў рамбавіднага характару з дэкаратыўнымі кветкамі альбо васьміпраменнымі зорачкамі ў сярэдзіне працягваюць выплятаць многія і цяпер. У апошняе дзесяцігоддзе няшмат ствараюць карункаў з зоамарфічнымі матывамі, часцей такія карункі нараджаюцца ў вёсках. Часта адлюстроўваецца вазон з ідэнтычнымі птушкамі па абодва бакі ці фігуркамі жанчын з кветкамі ў руках, выявамі звяроў ці хатніх жывёлін. Нярэдкая з'ява -- спалучэнне геаметрычных і зоамарфічных матываў альбо раслінных.

Асобае месца ў мастацтве карункапляцення займаюць карункі, створаныя спецыяльна для аздаблення ручнікоў. Цікава, што на тэрыторыі Гродзеншчыны нават самыя прыгожыя ручнікі з вышываным ці тканым дэкорам абавязкова дапаўняюць карункамі. Вельмі рэдка панёманскія майстрыхі не ўпрыгожвалі свае ручнікі карункамі ці прэнзлямі. Сустракаюцца ручнікі, абплеценыя карункамі ўздоўж беражкоў тканіны, а канцы вырабу завяршаюцца шырокімі карункамі з зубчыкамі. Дарэчы, зубчыкі, у кожным з якіх, як правіла, размяшчаецца ўзор, характэрная асаблівасць карункаў у Панямонні. Зубчыкі бываюць разнастайныя па форме -- паўкруглыя, завостраныя, прамавугольныя, нярэдка дадаткова аздабляюцца яшчэ маленечкімі зубчыкамі. У Лідскім раёне вельмі часта ручніковыя карункі абплятаюцца чырвонай ніткаю. Нярэдка чырвоны колер уводзіўся ў сярэдзіну ўзору беласнежных карункаў.

Распаўсюджаныя матывы, што адлюстроўваюць "сэрца", "павучка", "матылька", "вінаград" і іншыя. Некаторыя жанчыны ствараюць вельмі складаныя і цікавыя ручніковыя карункі. Здараецца, што менавіта карункі выконваюць галоўную ролю ў дэкаратыўна-мастацкім аздабленні ручніка. Шматколерныя з сюжэтным малюнкам карункі для ручнікоў выплятаюць майстрыхі Зэльвенскага і Воранаўскага раёнаў. Сустракаюцца аналагічныя вырабы ў Іўеўскім і Шчучынскім раёнах таксама. Зрэдку панёманскія майстрыхі выкарыстоўваюць у аздабленні карункавых вырабаў пражу з воўны хатняй апрацоўкі.

Карункі ў Панямонні вылучаюцца ўдалым спалучэннем разнастайнай шчыльнасці пляцення. Часцей агульная прастора карункавай тканіны выплятаецца больш празрыстай, а сам узор ствараюць, прымяняючы процілеглую шчыльнасць нітак. Амаль у кожным карункавым вырабе прысутнічае так званая дэкаратыўная сетка, што сімвалізуе поле, засеянае збожжам, добры ўраджай.

Надзвычай тонкімі і далікатнымі ўзорамі аздабляюць маладыя матулі вопратку для маленькіх дзяцей.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**Уладзімір Тоўсцік -- вядомы беларускі мастак. З 1976 года ён выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе зараз з'яўляецца загадчыкам кафедры малюнка. На выставе, што экспануецца ў Палацы мастацтва, прадстаўлена нізка карцін Уладзіміра Тоўсціка "Святло і цені". Сама ж выстава праходзіць пад дэвізам "Посттрадыцыяналізм".**

**Традыцыяналізм Уладзіміра Тоўсціка, на мой погляд, у пільнай увазе да колеру. Мастак спалучае фарбы так, што карціна пачынае жыць. Кожны твор мастака прадстаўляе сабой адно цэлае, дзякуючы натуральнасці спалучэнняў колераў, формаў.**

**На карцінах Уладзіміра Тоўсціка шмат сімвалаў, знакаў, умоўнасцяў. Тут адчуваецца подых сюррэалізму, калі пад ім разумець выяўленне падсвядомасці, асацыяцый мастака.**

**Уладзімір Тоўсцік піша сваю "Восень" у жоўтым, вогненным, рыжым колеры. Традыцыйны па тэматыцы пейзаж нечакана заваражвае вас сваёй прыгажосцю. І вам здаецца немагчымым не любіць восень. Як можна было не заўважаць яе палымяных чар!**

**Цудоўны вобраз успаміну аб дзяцінстве створаны на карціне "Стары паланез". Гэтая карціна -- фантазіі на тэму шэрага колеру. На ёй хлопчык у матросцы, фартэпіяна, жанчына, што іграе на ім, стары дом, сад -- усё трапяткое, крохкае, як успамін. Здаецца, варта адвесці вочы ўбок, і ён згіне, на яго месца прыйдзе новы. І ад гэтага ля карціны хочацца стаяць яшчэ і яшчэ.**



**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: карціны У. ТОЎСЦІКА "Стары паланез", "Унутранае святло", Шлях да краіны вечнага спакою".**

## СЕНСАЦЫЯ Ў ДАЦКІМ КАРАЛЕЎСТВЕ

На працягу цэлага тыдня аркестр народных інструментаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта пад кіраўніцтвам Алега Шапялевіча прымаў удзел у ІІ Міжнародным фестывалі духавых аркестраў, які праходзіў у дацкім горадзе Роскільдэ. Гэта вельмі прадстаўнічы і прэстыжны фестываль. Дастаткова сказаць, што ў ім бралі ўдзел знакамітыя і вядомыя калектывы з Англіі, Нарвегіі, Чэхіі, Японіі, усяго было прадстаўлена 18 краін. У выкананні нашых артыстаў на фестывальных пляцоўках гучалі творы беларускіх кампазітараў, народныя мелодыі, старадаўнія рамансы. Нязменным поспехам у гледачоў карысталіся "Венецыянскія карнавалы" Паганіні. Спадабаўся дацкаму гледачу і саліст аркестра 15-гадовы Міша Лявончык, сын вядомага нашым замежным суайчыннікам цымбаліста Алеся Лявончыка, які не раз выступаў перад беларусамі Амерыкі, Канады і іншых краін. За час фестывалю аркестр даў шмат канцэртаў, выступаў перад студэнтамі каледжа, у доме састарэлых, зрабіў турнэ па невялікіх дацкіх гарадах. І як вынік -- аркестр БДУ аднадушна быў прызнаны лепшым. Менавіта яму журы прысудзіла першае месца і галоўны прыз фестывалю -- трубу сусветна вядомай фірмы "Ямаха". Пасля гэтага поспеху гастрольная геаграфія калектыву, відаць, значна пашырыцца. Ён ужо атрымаў запрашэнні наведаць з канцэртамі Швейцарыю, Бельгію, Італію.



Гэтым летам у Брэсцкай вобласці праходзіў фестываль сямейных фальклорных калектываў. На ім першае месца заняў калектыў, які ўзначальвае Сцяпан Юрэня з вёскі Калбовічы Баранавіцкага раёна. Сам ён іграе на розных народных інструментах з юных гадоў. У яго ансамблі -- дзеці, унукі, сваякі.

НА ЗДЫМКУ: Сцяпан ЮРЭНЯ са сваімі ўнукамі Вольгай і Андрэем, кожны тыдзень прыязджаюць яны з Баранавіч на рэпетыцыі да дзеда ў Калбовічы.

Фота Эдуарда КАБЯКА.

# ПРЫГАЖОСЦЬ КАРУНКАВЫХ УЗОРАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Многія жанчыны як вясковыя, так і гарадскія і цяпер, упрыгожваючы цудоўнымі карунанчкамі чапец ці сарочачку дзіцяці, уплятаюць нітачку чырвонага колеру, якая выконвае ролю ахоўніка, засцерагае ад нядобрага вока, як кажуць сталыя людзі.

Мастацтва празрыстага пляцення з нітак выявілася не толькі ў стварэнні сурвэт, абрусаў, іншых прадметаў з дапамогаю кручка. Характэрнай асаблівасцю народнай творчасці Гродзеншчыны з'яўляюцца дэкаратыўныя сеткі-абрусы і сеткі-дываны, што былі шырока распаўсюджаны ў кожным раёне вобласці. Ствараецца такі выраб на драўлянай раме. З чатырох бакоў набіваюцца маленькія цвічкі, на якія нацягваюцца асноўныя ніткі. Потым ручным спосабам ці з выкарыстаннем вялікай іголкі (грашоўкі, шаршаткі) шляхам перапляцення ствараецца своеасаблівая празрыстая тканіна, якая аздабляецца шматколерным узорам. Вышыўка ажыццяўляецца так, каб не было відаць вузельчыкаў пражы ні з аднаго боку. У якасці матэрыялу выкарыстоўваюцца льняныя ніткі для стварэння самой тканіны і авечая ці казіная воўна (натуральнага колеру ці пафарбаваная) для вышыўкі.

Выключна прыгожыя такія творы, у якіх сетка зроблена з суровых ільняных альбо пафарбаваных у адвары алешыны ці дубовай кары нітак, а дэкор -- з адбеленых ільняных нітак. Пража для ўзору заўсёды патоўшчаная ў параўнанні з асноўнымі ніткамі. Матывы дэкаратыўнага аздаблення выкарыстоўваюцца разнастайных варыянтаў, як на тканых ці вышываных тканінах. Маюцца на ўвазе геаметрычныя, расліннага і зоамарфічнага характару, у больш даўнія часіны сустракаліся нават антрапаморфныя матывы. Часам выкарыстоўваецца і манаграма. Як правіла, малюнак на гэтых дзівосна прыгожых тканінах буйны, даволі выразны, выпуклы. Кампазіцыйнае вырашэнне нагадвае посцілку ці настольнік (абрус), лакальная назва -- "сурвэта", "сетка", "дыванок", "празрысты абрус", "празрысты дыван".

Выкарыстоўваюць гэтыя прыгожыя вырабы ў якасці абруса, якім пакрываюць стол у святочныя дні паверх ільнянога шэрага ці белага настольніка хатняга ткацтва. Раней такімі празрыстымі маляўнічымі тканінамі ўпрыгожвалі сцены вясковага інтэр'ера, пакрывалі куфры ці скрыні, ложак, канапу. У летнія спякотныя дні, са слоў інфарматараў, такімі вырабамі завешвалі часта дзверы, каб не ляцелі ў хату мухі. Зрэдку і цяпер можна ўгледзець такую своеасаблівую фіранку ў некаторых раёнах Панямоння.

Ніткі, з якіх выплягалі сетку, афарбоўвалі ў цёмны колер альбо пакідалі суровымі. Зрэдку дэкаратыўныя сеткі ствараліся з чыстай воўны. Амаль не сустракаюцца на тэрыторыі Гродзеншчыны сеткі-тканіны, у якіх сама сетка зроблена з адбеленага лёну. Белыя льняныя ніткі выкарыстоўвалі толькі для вышывання ўзору. Часцей за ўсё асноўная сетка была чорнага колеру, хаця сустракаюцца і зялёныя, сінія, карычневыя ці іншага цёмнага колеру. Тканіны-сеткі знешне падобны да дываноў, вытканы спосабам закладнога ткацтва альбо, як кажуць у Панямонні, "у матушкі" ("закладанкі", "выкладанкі"). Надзвычай прыгожа выглядаюць яны на драўляных сценах старых вясковых хат.

Выяўляючы фантазію і майстэрства, жанчыны ствараюць сапраўдныя творы мастацтва ў галіне гэтага віду народнай творчасці. Сеткі-абрусы, а таксама сеткі-дываны ўпрыгожваюць махрамі з пражы, якая выкарыстоўваецца ў якасці асновы, альбо навязваюць махрыкі з іншых нітак. Некаторыя майстрыхі аздабляюць свае вырабы шматколернымі кутасамі ці сплеценымі рукамі альбо з дапамогаю кручка карункамі. Часам празрыстае пляценне спалучаюць з ткацтвам. Гэтыя вельмі прыгожыя ў мастацкіх, але надта складаныя ў тэхнічных адносінах вырабы стваралі толькі самыя таленавітыя ды цярплівыя майстрыхі. Часцей такія рэчы рабілі ў Лідскім і Мастоўскім раёнах, зрэдку -- у вёсках Шчучынскага і Дзятлаўскага.

Наогул, калі гаварыць пра празрыстыя мастацкія тканіны, то трэба адзначыць, што яны выраблялісе самыя разнастайныя па мастацкаму строю і самымі разнастайнымі спосабамі, але часцей за ўсё іх ствараюць на раме. У цяперашні час нямногія жанчыны займаюцца гэтым арыгінальным мастацтвам, надаючы перавагу пляценню карункаў з дапамогаю кручка.

Многія жанчыны, асабліва ў гарадах і пасёлках, выкарыстоўваюць карункавае пляценне з дапамогаю кручка для стварэння некаторых прадметаў адзення ці асобных дэталей, гэта пераважна каўнерыкі, манжэты для жанчын і дзяўчынак, а таксама выробляюць разнастайныя насоўкі, сурвэткі, дэкаратыўныя выявы птушак і звяроў (маецца на ўвазе своеасаблівая карункавая пластыка). Пляценне кручком больш пашырана яшчэ і таму, што клубочак невялічкі з ніткамі і сам кручок можна заўсёды ўзяць з сабою, каб працягваць карысную і прыемную справу, калі, напрыклад, даводзіцца чакаць цягніка ці аўтобуса. З вялікім захапленнем бяруцца за карункапляценне дзяўчынкі школьнага ўзросту, але, як і ў кожнай справе, не ўсе выяўляюць вялікія здольнасці ды цярплівасць.

Мне хацелася б як можна болей расказаць пра унікальнае старажытнае мастацтва карункапляцення ў Панямонні, але для гэтага спатрэбілася б шмат старонак. Таму невялічкі артыкул -- гэта толькі крышачку прыадчыненыя дзверы ў цудоўны свет празрыстых карункавых узораў, гэта невялічкая старонка з кнігі народнага мастацтва вёсак і гарадоў, што раскінуліся ўздоўж жывапіснай ракі Нёман.

Валянціна ВОЛАХ.

# ЧАРОМХАВЫ ВОДАР

Словы Івана ЦІТАЎЦА

Музыка Міхаіла СЛІЗКАГА



Сярэбраны голас салоўкі
Над вечарам сінім плыве.
Дастану, надзену абноўкі.
Мой любы чакае мяне.

Пайду да яго маладзенька,
Салоўка спявае для нас.
Кахай ты мяне, мой міленькі,
Цвіце маладосць толькі раз.

Скажы ты мне словы такія,
Каб песняй гучалі яны,
Каб светлыя мары святыя
Дапоўнілі радасць вясны.

Хай нашыя рукі сплятуцца,
А губы прымкнуцца да губ,
І шчырыя словы пальюцца
Пра шчасце, каханне і шлюб.

Чаромхавы водар лунае,
І месяц глядзіць з вышыні.
Я побач з табой, маладая,
Да сэрца мяне прыгарні.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**Уладзімір АБРАМОВІЧ** шукае свайго дзеда **Сяргея УСОВІЧА** (на здымку стаіць), які нарадзіўся ў 1910 годзе ў вёсцы Еськавічы Нясвіжскага раёна і які згубіўся падчас вайны ў 1945 годзе. Меў жонку **Серафіму Віктараўну**, дачку **Неанілу** ды сыноў **Барыса** і **Юрку**.

Вядома, што ў 1992 годзе яго бачылі ў горадзе Лондане (што ў Канадзе). Калі хто-небудзь ведае пра лёс маіх родных або месцы іх пражывання, просьба паведаміць на адрас:



**Рэспубліка Беларусь,**
**г. Мінск,**
**вул. Сядых, 68--13.**
**АБРАМОВІЧУ Уладзіміру.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1308. Падпісана да друку 12. 9.1994 г.